*Прачытай сам і перадай другому.*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
*Якуб КОЛАС*

**№ 12 (4572)**

16 лютага 2021 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




# Народная Воля



***Спецдакладчык Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па Беларусі Анаіс Марын лічыць, што без рэформы выбарчай сістэмы правядзенне мясцовыя, парламенцкія ці прэзідэнцкія выбары ў Беларусі бессэнсоўна.***

**БЛІЦ**

*Так, Беларусь чакаюць чарговыя лёсавызначальныя палітычныя кампаніі. Хутчэй за ўсё, выбары ў мясцовыя Саветы адбудуцца адначасова з рэферэндумам па Канстытуцыі. Вядома ж, не здымаецца з парадку дня і прэзідэнцкае пытанне. З-за беспрэцэдэнтных фальсіфікацый вынікаў галасавання ў жніўні мінулага года мільёны людзей да сённяшняга дня не могуць супакоіцца і з нецярпеннем чакаюць справядлівага, на дэмакратычнай аснове, яго вырашэння.*

*Зыходзячы з надзвычай вострай сітуацыі, ужо сёння, не губляючы ніводнага дня, трэба брацца за перагляд састарэлага Выбарчага кодэкса. Калі гэтага не зрабіць, то зноў правядзенне і адных, і другіх выбараў, як і рэферэндуму, апынецца ў руках тых, каму ўтрыманне ўлады даражэй за агульнанацыянальныя інтарэсы, за мір і спакой у грамадстве. Каб адвесці краіну ад бездані, каб усе наспелыя палітычныя кампаніі былі праведзены празрыста, без усялякага махлярства, і трэба тэрмінова ўзяцца за распрацоўку і прыняцце новага Выбарчага кодэкса. Ініцыятарамі гэтай справы могуць стаць не толькі дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, але і актывісты палітычных партый, грамадскіх аб'яднанняў, рухаў і проста неабыякавыя людзі.*

*"Народная Воля" звярнулася да шэрагу ўчарашніх субяседнікаў з такім пытаннем:*

# – Вы згодны з тым, каб Беларусь падышла да чарговых палітычных кампаній з новым Выбарчым кодэксам?

### Алег ТРУСАЎ, археолаг, ганаровы старшыня ГА «Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны»:



– Выбарчае заканадаўства трэба кардынальна мяняць, бо па старым нармальныя выбары правесці немагчыма. Што павінна быць у новым законе? Па-першае, ад кожнага кандыдата – афіцыйны прадстаўнік у выбарчай камісіі. Ад кожнага! Па-другое, трэба ліквідаваць датэрміновае галасаванне, яго не павінна быць ні пад якім соўсам! Па-трэцяе, Цэнтрвыбаркам павінен фарміравацца з вылучэнцаў грамадскіх рухаў і палітычных партый. Вылучылі яны, дапусцім, 15 чалавек, а ўжо з ліку іх выбіраецца старшыня, адкрытым лёсаваннем. Тады гэта будзе сапраўды незалежны орган.

### Сяргей ЗАКОННІКАЎ, пісьменнік:



– Тры пункты для будучага закона аб выбарах. Першы – датэрміновае галасаванне толькі для абмежаванага кантынгенту – інвалідаў, нямоглых, камандзіровачных. Другі – абавязкова на кожным участку незалежныя назіральнікі, кантроль за кожным бюлетэнем. Трэці – старшыня Цэнтрвыбаркама выбіраецца, а не прызначаецца кім бы то ні было. І гэта павінна быць не платная, а грамадска-выбарная пасада.

Пытанне, хто ў нас мае легітымнае права на прыняцце такога Выбарчага кодэксу. Партыі слабенькія, а заканадаўчыя органы цалкам кантралююцца выканаўчай уладай… Клубок, у які нас укруціў Лукашэнка, настолькі заблытаны, што не ведаеш, за якую нітку пацягнуць, каб яго разблытаць.

### Анатоль СІДАРЭВІЧ, гісторык:



– У новым законе трэба абавязкова прапісаць, што ў выбарчыя камісіі ўсіх узроўняў уводзяцца прадстаўнікі тых партый, якія рэальна ўдзельнічаюць у выбарах. Што назіральнікі маюць права непасрэдна назіраць за падлікам галасоў, мець доступ да кожнага бюлетэня. Калі гэта будзе ў законе, "фактар Ярмошынай" перастане быць вырашальным.

Дэмакратычная апазіцыя названыя мной прапановы ўносіць ужо дваццаць гадоў – безвынікова. І сёння яны будуць марным лямантам. Бо ўсё ідзе да таго, каб наогул ліквідаваць апазіцыйныя партыі, нездарма Лукашэнка на сходзе настойваў на іх перарэгістрацыі. Хоць законам аб партыях гэта не прадугледжана, у нас, як, вядома, "падчас не да законаў".

### Дзмітрый БАНДАРЧУК, грамадскі актывіст (Гродна):



– Канешне, згодны з тым, што трэба тэрмінова прымаць новы Выбарчы кодэкс. Я лічу, што гэта магло б стаць канкрэтным крокам для паляпшэння сітуацыі ў нашым грамадстве. Праўда, баюся, што бліжэйшыя палітычныя кампаніі пройдуць згодна з дзеючым выбарчым заканадаўствам, ізноў усе камісіі будуць сфарміраваны з тых людзей, якія згодны пайсці на любыя фальсіфікацыі.

### Павел МАЦУКЕВІЧ, дыпламат:



– У нас праблема цяпер не з недахопам заканадаўчых дакументаў, такіх як Выбарчы кодэкс або нават Канстытуцыя, а з іх выкананнем. На ўсіх папярэдніх выбарчых кампаніях, акрамя прэзідэнцкай 2020 года, у нас былі назіральнікі з АБСЕ. Яны фіксавалі парушэнні, а ці ўплывала гэта на вынікі галасавання? Не. У нас працуе сталінскі прынцып: не важна, што ўбачылі і сказалі назіральнікі, важна, якую мэту паставілі наверсе.

### Аляксей МАРАЧКІН, мастак:



– Пры гэтай уладзе, пры гэтым кіраўніцтве нічога добрага не будзе. Так, як быў арганізаваны Усебеларускі калгасны – як называюць яго ў народзе – сход, то і новы Выбарчы кодэкс будзе той жа імітацыяй, пародыяй. На сходзе не прагучала ніводнай альтэрнатыўнай думкі, адна ўладная кропка гледжання, і ў Кодэксе альтэрнатыўнай думкі не будзе – улада не дасць туды запісаць нічога новага. Зараз бессэнсоўна пачынаць ствараць новыя дакументы. Спачатку трэба змяніць уладу.

### Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА, дырэктар цэнтра «Еўрапейскі дыялог»:



– З кастрычніка мінулага года працуе рабочая група з прадстаўнікоў дэмакратычнага грамадства, якая займаецца распрацоўкай праекта новага Выбарчага кодэкса. За гэты час мы падрыхтавалі фактычна новы кодэкс. Вось-вось атрымаем заключэнне ад беларускіх і міжнародных экспертаў. Мы працуем з некалькімі міжнароднымі арганізацыямі, якія маюць вельмі багаты досвед працы ў сферы выбарчага заканадаўства. Думаю, новы Выбарчы кодэкс дазволіць правесці свабодныя і сумленныя выбары, паколькі ён будзе адпавядаць усім міжнародным стандартам.

Дарэчы, хацелася б не толькі абмяжоўвацца экспертнай ацэнкай, але і пайсці да людзей, каб распавесці ім, чым адметны новы Выбарчы кодэкс, чым ён адрозніваецца ад папярэдняга, і чаму мы даём гарантыю, што выбары будуць сумленныя.

А новы кодэкс абавязкова патрэбны тым выбаршчыкам, якія не хочуць, каб іх галасы скралі. Бо людзі ў мінулым годзе якраз і выйшлі на пратэсты, бо не ўбачылі ў краіне свабодных выбараў. Размова ідзе пра мільёны людзей.

### Андрэй ДЗМІТРЫЕЎ, адзін з лідараў кампаніі «Гавары праўду»:



– Лепш, канешне, было б, каб Беларусь падышла да чарговай палітычнай кампаніі з новым кіраўніком. Тады, магчыма, не спатрэбілася б і Выбарчы кодэкс змяняць. А калі б і былі змены ў кодэксе, то яны мелі б рэальны сэнс.

А на сённяшні дзень любыя змены, якія рэжым уносіць у законы, будуць накіраваны толькі на абмежаванне палітычных правоў у грамадстве, на абмежаванне магчымасцяў людзей удзельнічаць у прыняцці рашэнняў.

Трэба разумець: калі напрыканцы гэтага года нас чакае рэферэндум па Канстытуцыі, то патрэбны план, як не дапусціць канстытуцыйнага перавароту ў краіне. Калі зменяць Канстытуцыю без уліку меркавання людзей альбо з улікам фэйкавага меркавання, то дэ-факта гэта будзе канстытуцыйным пераваротам.

### Юрась ГУБАРЭВІЧ, старшыня руху «За Свабоду»:



– Я думаю, што найперш трэба працаваць над зменай практыкі правядзення выбараў, бо нават існуючы Выбарчы кодэкс дазваляе фарміраваць камісіі, незалежныя ад вертыкалі ўлады.

Не зменіцца практыка правядзення выбараў – яны будуць па-ранейшаму фальсіфікавацца. Хто ў Беларусі з'яўляецца арганізатарам выбараў? Хто ў нас сёння можа прымаць рашэнні па зменах у Выбарчым кодэксе? Тыя самыя людзі, якія праводзілі ўсе апошнія кампаніі. І што, яны пойдуць на тое, каб зрабіць выбары празрыстымі? Не веру!

### Валянцін СТЭФАНОВІЧ, праваабаронца:



– Я мяркую, што пры гэтым рэжыме няма розніцы, з якім Выбарчым кодэксам мы прыйдзем да новай палітычнай кампаніі, бо сумняваюся, што будуць забяспечаны свабодныя дэмакратычныя выбары. У любым выпадку кантроль за выбарчым працэсам будзе захаваны з боку выбарчай улады. І ад кодэкса тут абсалютна нічога не залежыць.

### Вадзім САРАНЧУКОЎ, старшыня Гродзенскай абласной арганізацыі Партыі БНФ:



– Тое, што сёння адбываецца ў Беларусі, можна назваць прававым дэфолтам. Не важна, якія змены могуць быць унесены ў Выбарчы кодэкс, галоўнае – як пэўныя сілы прыменяць яго на практыцы. Па Выбарчым кодэксе, які ёсць, таксама можна правесці чэсныя выбары, але мы бачылі, што рабілася ў жніўні мінулага года. Таму я хацеў бы, каб падчас чарговых палітычных кампаній не ігнараваліся нормы заканадаўства.

### Алесь МАСЮК, жыхар г.Слоніма:



– Безумоўна, згодны з тым, што патрэбны новы Выбарчы кодэкс. Бо калі і надалей будзе дзейнічаць датэрміновае галасаванне і члены камісій усіх узроўняў будуць прызначацца ўладамі, то ні пра якія чэсныя выбары размовы быць не можа.

### Алесь ДЗЕРГАЧОЎ, жыхар г.Смаргоні:



– Безумоўна, новы Выбарчы кодэкс неабходна прыняць да чарговых палітычных кампаній – інакш нічога добрага не атрымаецца. Калі праводзіць выбары па старых правілах, то вынікі іх ужо вядомыя. А значыцца, ніякіх палітычных кампаній няма сэнсу наогул праводзіць.

### Ігар БАРЫСАЎ, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада):



– Я не супраць, каб новы Выбарчы кодэкс быў, але мала што зменіцца, калі не будзе палітычнай волі на яго выкананне. Зараз у краіне многія законы не працуюць зусім, таму, як мне падаецца, няма сэнсу прымаць і новыя заканадаўчыя акты, і новую Канстытуцыю. Спачатку трэба ўсталяваць дэмакратыю ў Беларусі.

Змена складу Цэнтрвыбаркама была б іміджавым крокам, які паказаў бы, што магчымы змены і ў выбарчым заканадаўстве. Хаця я больш чым упэўнены, што і пры гэтым Выбарчым кодэксе можна было б арганізаваць справядлівыя выбары. Была б на гэта толькі палітычная воля. На жаль, яе пакуль няма.

Таму працаваць над праектамі законаў трэба, але ў мяне няма ні перакання, ні гарантыі таго, што будзе зменена падчас чарговых выбараў правапрымяняльная практыка.

### Васіль ПАЛЯКОЎ, палітык і грамадскі актывіст, Гомель:



– Лічу, што галоўная праблема не ў Выбарчым кодэксе, а ў правапрымяняльнай практыцы, калі ўвогуле галасы на многіх участках не лічаць. І такая практыка супярэчыць у першую чаргу самому Выбарчаму кодэксу. ЦВК і нізавыя выбарчыя камісіі неабходна вывесці з падпарадкавання прэзідэнту і выканкамам, зрабіць іх цалкам самастойнымі і незалежнымі, у іх склад павінны ўваходзіць прадстаўнікі і апазіцыйных палітычных партый.

Што да Выбарчага кодэксу, то яго, канечне, трэба неадкладна прывесці ў адпаведнасць з міжнароднымі стандартамі, каб забяспечыць правядзенне празрыстых і сумленных выбараў. Але гэта, паўтару, на другім месцы пасля сумленнага падліку галасоў. Калі ніякіх змен у гэтым напрамку не будзе, у краіне зноў адбудзецца выбух народных пратэстаў.

**Апытвалі Анатоль ГАТОЎЧЫЦ, Міхась КАРНЕВІЧ, Алена МАЛОЧКА, Алесь СІВЫ, Міхась СКОБЛА.**

ОТКРЫТЫМ ТЕКСТОМ

# Странная роль Канопацкой…

Что ни говорите, а умеет лукашенковская власть использовать таких, как Анна Канопацкая. Это было видно еще тогда, когда ей вручили пропуск на четыре года в Палату представителей. Всем претендентам от оппозиции дали от ворот поворот, а она все же депутатский мандат получила. Как же! Нужно было «Красному дому» показать на весь белый свет, что и у нас, в Беларуси, демократия: видите, в парламенте нашлось место и для молодой и амбициозной Канопацкой…

Окажись на ее месте Зенон Позьняк, его ораторский голос был бы слышен каждый день, с дрожью в коленках встречали б оппоненты его появление на трибуне. А присутствие в Овальном зале Анны Канопацкой оказалось, на мой взгляд, чисто декоративным. Хотя позерства, самолюбования у нее было предостаточно.



Не получив на очередных так называемых выборах парламентские корочки, Канопацкая замахнулась на президентское кресло. Думается, этого как раз и ожидали от нее Лукашенко и его подхалимская рать. Опять можно было заводить старую пластинку с известной мелодией: в Беларуси – демократия, каждый имеет право выдвинуть свою кандидатуру на любую должность. Но, заметьте, власть, используя по полной программе Канопацкую и таких, как она, и близко не подпустила к избирательным участкам Бабарико, Цепкало, Тихановского… Фамилия Анны, несмотря на то, что она позорно провалилась со сбором подписей в свою поддержку (об этом свидетельствуют многочисленные факты), оказалась все же в одном бюллетене с Лукашенко. Можно было заранее предположить, сколько процентов электората ей нарисуют ее кураторы. Курам на смех! Использовали – и забыли!

Когда начинаешь анализировать поведение Канопацкой, то невольно приходит такая мысль: а не отведена ли ей в оркестре диктатора Лукашенко специальная роль? Скорее всего, отведена. И, судя по всему, она играет, как может. Вот и в так называемом Всебелорусском народном собрании согласилась участвовать. Зная, конечно, что придется лизнуть власть, не миновав позора в глазах демократической общественности. Подойдя к микрофону, она сказала: *«Сегодняшнее мероприятие можно смело назвать «слетом победителей». Да, в этом электоральном цикле вы оказались сильней, сплоченней, организованней. Вас оказалось больше, вам было что терять, и вы победили».* Какое коленопреклонение перед «ябатьками», какой удар в спину тем, кто вот уже седьмой месяц не может смириться с беспрецедентными фальсификациями во время голосования на президентских выборах!

Сколько пролито крови в акциях за справедливость, за то, чтобы виновные в подтасовках и различных других махинациях были наказаны по закону. Хоть одно уголовное дело против них заведено? Нет. Зато тысячи честных людей прошли через суды, получив немалые сроки отсидки за решеткой и большие штрафы.

Против восставшего за правду народа брошены вооруженные до зубов омоновцы, подразделения внутренних войск, милиция. Что, госпожа Канопацкая, не видишь, какой произвол чинят власти против мирного населения? Да, они пока оказались «сильней, сплоченней, организованней», но, согласись, Анна, их сила держится на штыках, а не на справедливых честных отношениях с народом. И у диктатуры один конец – поражение. И не из-за внешних сил, о которых вы вспомнили, поддакивая сидящим в зале Дворца Республики, а потому, что порядочные белорусы устали от беззакония в стране, от пустой демагогии властей предержащих. Где 1000 долларов среднемесячной зарплаты, о которых Лукашенко трезвонил еще десять лет назад? Где бесплатное образование, где бесплатная медицина? Да сегодня чуть ли не за все нужно платить при нищенских доходах большинства населения.

Выступая на так называемом Всебелорусском народном собрании, Канопацкая, думается, на сто процентов угодила его самому главному участнику – Александру Лукашенко. Теперь в его кармане припасен довольно сильный козырь, который он сможет выложить Путину во время возможно скорой встречи в Сочи. Мол, смотри, как негативно оцениваются некоторые действия России в отношении Беларуси. И в качестве примера процитирует ту же Канопацкую: *«Нельзя оставить без должного внимания и реагирования беспрецедентное вмешательство во внутренние дела нашей страны в период подготовки, проведения и завершения президентских выборов со стороны соседних государств. В первую очередь – юридических и физических лиц российской юрисдикции. Указанные действия привели не только к эскалации противостояния внутри белорусского общества, но и имели негативные экономические последствия, исчисляющиеся для нашей страны в миллиардах долларов.*

*В этой связи мое первое предложение ВНС: поручить правительству Республики Беларусь создать межведомственную комиссию по оценке и анализу ситуации, а также определению размера экономических потерь, понесенных нашей страной от указанных действий. Результаты ее работы с требованием компенсации вынести на обсуждение с руководством Российской Федерации для урегулирования. При отказе от компенсаций рекомендовать президенту Республики Беларусь отозвать свою подпись под Союзным государством, а решение вопроса передать в судебные инстанции».* Радуйся, Александр Григорьевич, трепещи, Россия вместе с Путиным!

Наблюдательные люди заметили: Анне Канопацкой не по пути ни со старой, ни с новой оппозицией. Главное для нее, как я уже написал, позерство: нравиться тем, кто «сильней, сплоченней, организованней». И сегодня есть те, кому госпожа Канопацкая нравится. Но на широкую публику они, ее использователи, не выпускают. Вот даже выступление на том же так называемом Всебелорусском народном собрании не пустили в эфир. И она брезгливо, но проглотила этот плевок. А сколько еще их будет!

**Андрей КОЗЛОВСКИЙ,**
**избиратель.**

ГОНАР БЕЛАРУСІ

## Таццяна і Кастусь СЕВЯРЫНЕЦ:

# «Мы аптымісты, і мы дачакаемся сына!»

*Мы прыехалі ў госці да Таццяны і Кастуся Севярынец у Віцебск, каб паразмаўляць пра тое, адкуль яны бяруць сілы, што думаюць пра будучыню краіны і як выхоўваюць сваіх унукаў. Таццяна сустрэла нас смачным абедам і гарачай кавай, а Кастусь – вясёлымі гісторыямі пра сваю журналісцкую дзейнасць.*

**Таццяна:** – Цяпер нам цяжкавата, бо калі бачыш, як шалее ўлада, і не ведаеш, да якой ступені яна страціць розум, ды яшчэ пандэмія, то іншы раз паўстае пытанне: ці ўбачым сына? Я па жыцці звыкла звязвацца з Паўлам кожны дзень. У нас вельмі моцная эмацыйная сувязь. Мне дастаткова голас пачуць – я ўжо ведаю, у якім ён настроі і стане. У першым лісце, які Павел напісаў ужо з Валадаркі, ён выбачаўся, што не паразмаўляў са мною, калі я тэлефанавала напярэдадні затрымання. Ён вельмі спяшаўся туды, на Камароўку. Але мы аптымісты, і мы дачакаемся сына.

**Кастусь:** – А я супакойваю сябе такім вось выслоўем: сёння яны нас, а заўтра мы іх.

**– Што надае вам моцы?**

**Кастусь:** – Я ў гэтых варунках раблю тое, што ўмею рабіць. Напрыклад, магу зарыфмаваць некалькі радкоў, кожную нядзелю выстаўляю ў сацсетках чарговы вершык, прысвечаны бел-чырвона-беламу сцягу. І Паўлу я дасылаю гэтыя вершы, ён чытае іх сакамернікам.

**Таццяна:** – Я кожны дзень раблю нейкі маленькі ўнёсак у агульную справу. Часцяком знаходжу сабе прыгоды, тады пачынаюцца суды…

**Кастусь:** – Тады пачынаецца: «Прынясі мне тапкі, там трывожны чамаданчык мой стаіць, і не забудзь ваду». А я ўсё гэта забываю, а потым бегаю, купляю. Заходжу ў РАУС, там гэтыя камеры... Я крычу: «Мамка, ты тут?» – а мне з адной з камер: «Тут, тут!» Ну, пасмяёмся – і ўсё. Вядома, у такім узросце заперці чалавека ў камеру, у адзіночку… Ну, яны спецыяльна гэта робяць.

**– Павел даволі рана вызначыў свае прынцыпы і заўсёды рашуча адстойваў іх. Вы яго заўсёды падтрымлівалі?**

**Таццяна:** – Я заўсёды ведала, што ён не робіць нічога дрэннага, што ён адстойвае справядлівасць. А як інакш?

**Кастусь:** – Па-першае, гэта наш сын, гэта мы выхавалі яго. Чалавек з сям'і выйшаў. Зараз узгадваю, што сам ён крыху сумняваўся. Калі Паўла пасадзілі першы раз на Валадарку, ён яшчэ студэнтам быў, перажываў, як бацькі паставяцца. Не магу сказаць, што мы паставіліся спакойна, бо гэта было жудасна – на Валадарку, да бандытаў, да забойцаў! Таму складана было. Спачатку здавалася, што хутка ўсё пройдзе, наладзіцца.

**– Павел прыняў Хрыста падчас свайго першага арышту ў 1998 годзе. Ці можна сказаць, што ён выйшаў тады з Валадаркі іншым чалавекам?**

**Таццяна:** – Ён вярнуўся вернікам. Для мяне гэта было настолькі нечакана! Сям'я ў нас была звычайная, свецкая. Мой хлопчык, рафінаваны такі інтэлігент, які заўсёды быў любоўю сясцёр, з якога бабулі пыл здзьмувалі, аказаўся ў невыносных умовах. Было страшэнна, што маё дзіця праз такое праходзіць. Цяпер я ўжо сама ведаю, што гэта такое. Тым не менш не магу дачытаць яго кнігу «Каменнае сэрца». Там ён апісвае жахі зняволення. Калі дачытаю, пэўна адразу памру.

**Кастусь:** – Ён вярнуўся не іншым чалавекам. Павел проста ўпэўніўся ў тым, што яго прынцыпы слушныя, што ён змагаецца за дабро са злом, што ён на правільным шляху.

**– Вы калі-небудзь раілі Паўлу з'ехаць з краіны?**

**Кастусь:** – Адразу, адназначна і, думаю, у два галасы: не!

У адным з маіх вершаў ёсць такія радкі:

*Мне не трэба тое неба,*
*Дзе чужое сонца.*
*Мне б агеньчык,*
*мне б праменьчык*
*З роднага ваконца.*
*На святло і на цяпельца*
*Паімкнуся-мкнуся,*
*Бо да смерці маё сэрца*
*Разам з Беларуссю.*

Вось гэта мой прынцып і прынцып майго сына.

**Таццяна:** – Мы давалі яму выбар. Можа, недзе ў глыбіні, шкадуючы яго, гледзячы на тое, што адбываецца… Я ведала б, што мне так было б спакайней. Але мы былі ўпэўнены, што сын гэтага не зробіць ніколі.

**– Які з перыядаў зняволення сына стаў для вас самым цяжкім?**

**Таццяна:** – Калі Пашу першы раз узялі, яшчэ ў 1998 годзе, я нават страціла прытомнасць. Але сёння ўлада проста выйшла з берагоў і вось гэтым брудам, гэтымі памыямі залівае ўсё вакол сябе.

**Кастусь:** – Усе перыяды цяжкія, кожны па-свойму. Маральна яны Паўла не зломяць ніколі. Адзінае, чым яны могуць яму дасадзіць, – губіць здароўе. Гэта яны ўмеюць, і гэта невыносна.

Дарэчы, у 1998-м я быў вядомым журналістам. Сувязі ў мяне былі высокія. І вось набіраю начальніка ў пракуратуры, кажу: «Дапамажы!» А ён адказвае: «Лепш бы твой сын забіў каго-небудзь, увечары сядзеў бы дома».

**– Атрымліваецца, што ўсё жыццё Павел змагаецца не з нейкай там уладай, а з канкрэтным чалавекам – Лукашэнкам.**

**Кастусь:** – Не, ён не змагаецца з Лукашэнкам! Яго прынцып – не "супраць Лукашэнкі", а "за краіну". Ну, а Лукашэнка... Прыйдзе час, калі будуць казаць, што ён проста нейкі дзяржаўны дзеяч у часы Паўла Севярынца.

**– Ці прадчувалі вы, што гэтыя выбары прывядуць сына да чарговага зняволення?**

**Таццяна:** – Вядома, прадчувалі. Толькі думалі – калі? Перад мітынгам на Камароўцы Паша быў тут, у Віцебску. Ён нават прасіў мяне, каб не ішла туды, таму што ведаў, чым гэта можа скончыцца. Калі яго забралі, я ведала дакладна, што Паўлу налічаць як мага больш парушэнняў, каб даваць раз за разам па пятнаццаць сутак. Але на той момант я нават не думала, што гэта будзе турма. Потым Пашу змясцілі ў карцар, тады ўжо я адчула, што пагроза ёсць. Калі скончыліся суткі, я прыехала ў Мінск, каб дапамагчы Вользе з Францішкам *(жонцы і сыну Паўла. – **Рэд.**)*, супчык Пашаў улюбёны зварыла. А ўвечары патэлефанаваў следчы… Так мы даведаліся, што Паша яшчэ не хутка выйдзе. Вядома, крымінальную справу ўзбудзілі ні за што. Але народ так моцна ўзняўся, што было зразумела: Паўла, моцнага лідара, не выпусцяць. Інакш бы гісторыя ў нас была ўжо зусім іншая. Усіх тых людзей, у якіх ёсць лідарскія якасці, яны трымаюць у зняволенні, таму што супраць гэтых людзей, супраць духу свабоды і волі яны ніхто з усімі сваімі стрэльбамі, шчытамі, шаломамі…



**– Як часта да вас даходзяць лісты ад сына з Валадаркі, пра што ён піша?**

**Таццяна:** – Цяпер нам прыйшоў сорак пяты ліст. Як мы разумеем, каля дзясятка нашых лістоў Паўлу недзе згубіліся. Я нястрыманая ў сваіх эмоцыях, я вельмі жадаю, каб гэты цэнзар, які вычытвае мае лісты, хоць што-небудзь зразумеў. Аднойчы дзяўчынка даслала Паўлу малюнак з бел-чырвона-белым сцягам. Прыходзіць нам ліст ад Паўла з гэтым малюнкам, а там усё перакручана, іншыя колеры, нейкія свастыкі… Паша ў лісце пытаецца: «Мамачка, што гэта значыць?» Я ведаю, чыя дачушка гэты малюнак даслала, папрасіла арыгінал, і зразумела, што гэта цэнзар пашкодзіў малюнак. Ці мог разумны чалавек, які паважае сябе, такое зрабіць?

**Кастусь:** – Павел піша, што ў дзень атрымлівае да сарака лістоў і ўсім імкнецца адказаць. Піша, што сядзіць у камеры-двойцы, што адмовіўся ад дачы паказанняў, што яму змянілі следчага. Дарэчы, ведаю, калі прыйшоў новы следчы, Паша заўважыў у яго крыжык на шыі і спытаўся: «Вы што, верыце ў Бога?» – а той пачаў свідраваць яго поглядам. І Паша пачаў свідраваць яго поглядам. Сын кажа, што следчы так дваццаць секунд паглядзеў і адвёў вочы. А Павел заўсёды адмаўляецца ад дачы паказанняў і кожнаму следчаму кажа: «Ідзіце і пакайцеся, што вы робіце?»

**– Вольга, жонка Паўла, звяртаецца да вас па дапамогу?**

**Таццяна:** – Яна стараецца абыходзіцца сама, але мы звязваемся амаль штодня. Учора, напрыклад, размаўлялі. Волечка кажа, што верыць у лепшае, але рыхтуецца да горшага. Яна вельмі спадзявалася, што да Новага года Паша выйдзе. Але побач яе сын, Францішак. Дзеткі заўсёды падтрымліваюць.

**– Ці атрымліваецца ў вас жыць не толькі пакутамі сына, але і знаходзіць моц для звычайнага жыцця, звычайных радасцяў?**

**Таццяна:** – Жыццё – яно такое. У нас сем унукаў. І акрамя Пашы ў нас дзве дачушкі – Ганна і Дашанька. Для мяне гэта такая радасць, калі ўнукі прыязджаюць. Да таго ж ёсць сяброўкі, з якімі можам сустрэцца і паразмаўляць. У нас цудоўная каманда хрысціян-дэмакратаў, ініцыятыва «Віцебск – горад наш!», мы шмат чаго дамагліся ў горадзе. Такая я натура неспакойная. Цяжка дзень пражыць, калі ты, як той Мюнхгаўзен, нейкі подзвіг не здзейсніў, хоць бы маленькі!

**– Ці ёсць у вас адчуванне хуткай перамогі?**

**Таццяна:** – Трэба мець на ўвазе, што нас 26 гадоў катавалі, знішчалі і рыхтавалі па сутнасці да гэтага дня. Распавяду адну гісторыю. Мы вярталіся з чарговага суда, і адна жанчына зрабіла мне заўвагу: «Як ты можаш спакойна размаўляць з ахоўнікамі?» А я заходжу, вітаюся з імі, два пальцы паказваю… Яны ўжо мяне ведаюць, пашпарт не патрабуюць, пытаюцца, як мае справы. І вось я той жанчыне тлумачу, што, па-першае, яны не маюць ніякага дачынення да катаванняў. Гэта людзі, а з людзьмі трэба размаўляць так, як жадаеш, каб з табой размаўлялі. Жанчына пачала мяне пераконваць, што я буду той, якая дарue ўсім, калі мы пераможам. Гэта мяне моцна закранула. Кажу ёй: «Слухай, калі я стаяла ў пікетах яшчэ ўвосень 2019 года, адна пад бел-чырвона-белым сцягам, альбо нас стаяла дванаццаць чалавек на Плошчы Перамогі, на вачах усіх гэтых ціхушнікаў, якія нас здымалі, чаму цябе не было побач?» Яна кажа, што прачнулася толькі 9 жніўня. І я адказала: «Дзякуючы таму, што ты прачнулася толькі 9 жніўня, мы жывём так, як жывём. Ты спрыяла злачынству, якое зараз адбываецца. Вось там царква, пакайся і тады ўжо нешта мне кажы, каб было справядліва».

Таму ўсе тыя людзі, якія прачнуліся толькі 9 жніўня альбо тады, калі Бабарыка ці Ціханоўскі абвясцілі кампанію, – гэта цудоўна. Але вы павінны разумець, што гэта ўсё адбываецца таму, што вы так доўга спалі. А цяпер давайце разам думаць, ад кожнага з нас усё залежыць. Таму што шмат хто палез ізноў у гэтую гнойную кучу. Палезлі, таму што баяцца. Учора я размаўляла з сястрой, яна распавяла мне пра знаёмых, якіх прымушалі падпісваць ліст ад прафсаюзаў. Я пытаю: «І беглі падпісваць?» Яна кажа: «А што ім рабіць?» Ну, калі яны падпісалі, то няхай ведаюць, што разам з тым падпісалі сабе і сваім дзецям прысуды. Таму прадчування вельмі хуткай перамогі, на жаль, у мяне няма.

**Кастусь:** – Даваць прагнозы ў такіх варунках – няўдзячная справа. Калі б мне хто-небудзь у 1985 годзе сказаў, што СССР ляснецца, я проста пасмяяўся б. А ўсё здарылася за тры дні. Так і тут. Перамены абавязкова будуць.

**– Цяпер маладым людзям бывае цяжка, бо не заўсёды бацькі падтрымліваюць іх пазіцыю і прынцыповасць. Што б вы сказалі такім бацькам?**

**Таццяна:** – Ведаю такія гісторыі, яны вельмі балючыя! Я нават не сказала б, я здзівілася б: як можа вось гэтая пачвара быць даражэй за ўласнае дзіця?! Гэта ж ваша крывінка! А тое – хто яно вам? Сваё дзіця паспрабуйце хаця б зразумець.

**Кастусь:** – Тут я з Таццянай на сто адсоткаў згодны. Наш пасыл адзіны: прыслухоўвайцеся да сваіх дзяцей, разумейце, любіце іх, верце ім, безаглядна верце! Ім жыць, гэта іх будучыня.

**Ганна ЕРМАКОВІЧ.**
*("Новы час")*
**Фота Паўла Хадзінскага.**

